

# Хочаш быць смелым і дужым?

— Ты хочаш быць смелым і дужым? — запытаў настаўнік фізкультуры ў трэццякласніка Максіма.

— Хачу! — радасна адказаў хлопчык.

— А што ты для гэтага робіш?

— Н-не-е ведаю... — апусціў той галаву.

Дзеці, якія чулі размову, засмяяліся, а некаторыя пачалі дражніцца. Але настаўнік не дакараў вучня, наадварот, падбадзёрыў яго:

— Малайчына! Не баішся сказаць праўды.

Хтосьці з дзяцей пакпіў: «Максім не баіцца... Значыць ён усё ж смелы?».

Настаўнік задумаўся і адказаў:

— Так! Смелы! Засталося навучыцца быць дужым.

Я пачуў гэтую размову і задумаўся: а ці ўмею я быць смелым і дужым? Ці ўмееце вы, сябры? І што для гэтага трэба? Давайце разам памяркуем.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*





# Трохі цікавага!

• Папа Рымскі Францішак у дзяцінстве і маладосці вельмі любіў футбол. Нядаўна на сустрэчы з футбалістамі ён сказаў: «Я памятаю, як дзецьмі мы хадзілі з сям'ёй на стадыён... Мы ішлі ўсёй сям'ёй: тата, мама і дзеці. Мы вярталіся дахаты шчаслівыя. Паглядзім, ці зможа хтосьці з вас забіць такі гол, які забіў Пантоні».

• Галандскія вучоныя зрабілі выснову, што фізічная актыўнасць дзяцей не толькі не перашкаджае іх поспехам у дакладных навуках, але, наадварот, спрыяе ім. Свае даследаванні яны праводзілі ў розных краінах, і ўсюды вынік быў аднолькавы: фізкультура і спорт дапамагаюць дзецям засвойваць многія навукі.

• Сучасныя польскія навукоўцы робяць высновы, што цяпер дзеці рухаюцца нашмат менш не толькі за сваіх бацькоў і дзядоў, але і за сваіх равеснікаў яшчэ 10 гадоў таму. Прычыну яны бачаць у... камп'ютарах, за якімі дзеці праводзяць вельмі шмат часу.



*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 3 (61)/2013 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ, 220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,*
*мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
***Адрас для лістоў:** а/с 101, 220002 г. Мінск-2;* **e-mail:** *m.rycar@yandex.by*
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 4 000 экз. Заказ № 7669.
Падпісана да друку 15.10.2013 г. Надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня»
ЛП 02330/0494165 ад 03.04.2009 г., вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. 210015, г. Віцебск.



# ВЯЛІКІ СКАРБ

Сваё скаўцкае жыцце я распачала ў 2001 годзе. Тады і пачалася мая *«Вялікая скаўцкая гульня»*, якая працягваецца ўжо 12 гадоў.

На працягу 5 гадоў я займалася з дзецьмі ад сямі да дванаццацігадовага ўзросту. Па скаўцкай педагогіцы яны лічыліся *ваўчанятамі,* я ж была *Акелай* (іх лідарам). Той, хто чытаў кнігу Кіплінга «Маўглі», напэўна, адчуў штосьці знаёмае. Так, мы жылі і будавалі свае адносіны паводле гэтай кнігі. Паверце, гэта вельмі цікава! Напачатку ты сама вучышся, а потым ужо вучыш іншых. Дзякуючы маім *ваўчанятам* я нібы пражыла другое дзяцінства. Разам з імі я перажывала неверагодныя прыгоды, якія сталі для мяне найдаражэйшым жыццёвым досведам.



Цяпер жа мы распачалі ў скаўтынгу новую педагагічную практыку, якую запазычылі ў нашых братоў-скаўтаў з Італіі, — педагогіку *божых каровак*.

Упершыню пра існаванне ў скаўтынгу гэтай педагогікі мы даведаліся два гады таму. Нашы *вандроўнікі* і *праваднiцы* вярнуліся тады са скаўцкай сустрэчы, што праходзіла ў Рыме, і распавялі нам пра цудоўных італьянскіх *божых каровак*. Яны адзінагалосна заявілі





нам: «Вы павінны пазнаёміцца з педагогікай *божых каровак*, бо яна вельмі цікавая для дзяўчынак!». А паколькі мы, скаўты, прагнем усё рабіць як найлепш, то й зацікавіліся... І захапіліся! І пачалі арганізоўваць неверагодна цікавыя заняткі для дзяцей.

Калі ў мяне пытаюць: «Што табе больш за ўсё падабаецца на гэтых занятках?», я шчыра адказваю: «Атмасфера братэрства — скаўцкі дух». Што яшчэ падабаецца? Шчырыя ўсмешкі, якія ззяюць навокал. А яшчэ — вясёлыя гульні і спевы, святло лямпы і шмат цікавых гісторый пры ёй. А якія цікавыя «Дзённікі лесу» мы ствараем! А колькі радасці й творчасці ўкладваем у імправізаваныя вогнішчы з паказамі прыдуманых намі ж сцэнак! У нас столькі цікавага, што ўсяго й не пералічыш.

Яшчэ адным вельмі важным здабыткам гэтых заняткаў з'яўляецца магчымасць перажыць неверагодную колькасць прыгодаў супольна з Богам. Рэч у тым, што скаўтынг — гэта не проста гульня, але стыль жыцця, які патрабуе высілкаў, намаганняў, адказнасці, веры. Той, хто выбірае гэты стыль, распачынае скаўцкі шлях і трымаецца яго, можа атрымаць вялікі скарб. Для мяне такім скарбам сталася магчымасць служыць, і ў гэтым гэтым служэнні я адчуваю Божую падтрымку і любоў.

*Марыя Харашэвіч*





# Калі вецер дзьме ў твар

**Дзеці, як вядома, любяць удзельнічаць у пілігрымках і самых розных паходах ды падарожжах. Не стала выключэннем і пілігрымка да Маці Божай Будслаўскай з Жодзіна. На прывалах наша карэспандэнтка паразмаўляла з юнымі ўдзельнікамі пра тое, ці любяць яны фізкультуру і спорт і ці дапамагае ім гэта ў дарозе. Вось якія яна атрымала адказы.**



– Ведаю што спорт карысны і патрэбны. А для мяне гэта яшчэ і добра праведзены час, асабліва летам, калі яго так шмат! Улетку я шмат катаюся на ровары.

*Паліна Бубенька,*
*8 гадоў,*
*г. Барысаў.*

— Я даўно люблю спорт і займаюся харэаграфіяй. У вольны час таксама люблю катацца на роліках і ровары. Безумоўна, гэта дапамагае мне ў пілігрымцы. Да Маці Божай я іду ўжо пяты раз, і верыце альбо не, але я ні кроплі не стамілася, бо ў мяне моцныя ногі, тым больш што разам са мною ідзе мама і я нічога не баюся. Давяраю гэты шлях Богу, Ён са мною.



*Ангеліна Вайцяховіч,*
*10 гадоў,*
*г. Барысаў.*

— Вельмі люблю спорт, асабліва





футбол: у часе гульні можна столькі прабегчы! У нашай камандзе я абаронца — стараюся, каб мяч не трапіў у нашыя вароты. Мы збіраемся пры касцёле Маці Божай Фацімскай у Жодзіне і ганяем у футбол разам з айцом Міхаілам кожную суботу а 16-й гадзіне. Запрашаю і вас. Вядома, гэта мне дапамагае і ў пілігрымцы, калі трэба ісці пры любым надвор'і, як і ў футболе. Дарэчы, мне нецікава глядзець футбол па тэлебачанні, я больш люблю сам удзельнічаць. Таксама мне падабаецца і баскетбол.

*Францішак Бойка,*
*9 гадоў, г. Жодзіна.*



— Люблю катацца на ровары, на роліках, люблю дарогу і хуткасць, люблю, калі вецер дзьме ў твар. Думаю, што спорт дапамагае мне ў пілігрымцы, але і шмат залежыць ад маіх думак. Я заўважыла, што, калі думаю, як у мяне баляць ногі, яны тады пачынаюць балець яшчэ мацней, а калі я стараюся праслаўляць Бога і забываю пра свае ножкі, усё раптам прападае, быццам нічога і не балела.

*Крыстына Бубенька,*
*11 гадоў, г. Барысаў.*



— Мне вельмі падабаецца ганяць на ровары з сябрамі. Лета для гэтага такая цудоўная пара, што лепшай і не прыдумаеш. А ў пілігрымцы, вядома, лёгка не бывае. У мяне, як і ва ўсіх, таксама баляць ногі. Але тут столькі добрых людзей! Калі я гляджу на іх, і ў мяне адразу прыбаўляецца сілы.

*Янка Шульга,*
*8 гадоў, г. Барысаў.*



— Прывітанне, «Маленькі рыцар Беззаганнай»! Асноўны мой спорт — гэта ўрокі фізкультуры ў школе, таксама катаюся на ровары і роліках. Я вельмі люблю бываць на свежым паветры, а летам гэта для здароўя проста неабходна, тым больш што на вуліцы столькі ўсяго цікавага! Узгадваю ранішнія размінкі ў летніку: яны вельмі цяжка ўсім даюцца, асабліва калі расплюшчана толькі адно вока... Але затое пасля бадзёры цэлы дзень!

*Вераніка Дарагуш,*
*9 гадоў, г. Мінск.*

*Падрыхтавала*
*Гэлена Грамыка.*
*Фота Ірыны Рубінавай.*






# ПАБЫЛІ Ў ТРОХ КРАІНАХ

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Я вучуся ў гімназіі, шмат чытаю і вельмі люблю вандраваць. Летам мы разам са святарамі Андрэем Бульчакам, Аляксандрам Бараном і дзецьмі з чашніцкай і новалукомльскай парафій пабылі адразу ў трох краінах: Польшчы, Чэхіі і Славакіі! Дванаццаць дзён мы пазнавалі культуру і звычаі гэтых краін, наведвалі знакамітыя санктуарыі, музеі, палацы.

У Чанстахове мы маліліся перад цудатворным абразом Маці Божай, якую таксама называюць Чорнай Мадоннай. Штогод пакланіцца і выказаць свае просьбы сюды прыязджае каля 4 мільёнаў чалавек з усяго свету. Мы не былі выключэннем. Пабылі і ў Кракаве, адным з самых прыгожых гарадоў Еўропы, дзе ўбачылі архітэктурныя помнікі і, канешне, знакаміты Каралеўскі замак на Вавелі.



Назаўсёды у маёй памяці застанецца ўспамін аб прыгажосці гор Прыкарпацця! Асабліва, калі мы падымаліся на адну гару. Было вельмі цяжка, але кожную хвіліну адчувалася падтрымка сяброў. Мы дайшлі і змаглі ўбачыць сімвал Сакаліцы – сасну, якая расце якраз на скале.

Нашым малодшым падарожнікам спадабалася быць у парку забаваў Юрскага перыяду, дзе можна было трапіць у эпоху дыназаўраў. А нам, старэйшым карысна было пабыць у Асвенціме. Там кожны з нас змог ацаніць шчасце жыць у незалежнай краіне і ведаць пра жахі вайны толькі з падручніка па гісторыі.

Кожны са мной пагадзіцца, што лета – незабыўная пара. Менавіта такім яно і стала для нас, юных вандроўнікаў Чашнiччыны. І дзякуй за гэта нашым святарам.

*Ягор Авіжа, 13 гадоў.*



# ІМ СТРАШНА І ЦЯЖКА



Нядаўна Папа Рымскі Францішак заклікаў увесь Касцёл маліцца за Сірыю. Для малітвы быў вызначаны адзін дзень. Многія з нас 7 верасня маліліся разам з дарослымі і прасілі Пана Бога асабліва апекавацца гэтай краінай.

Цяпер з'явілася надзея, што доўгачаканы мір нарэшце запануе ў гэтым краі. Але ж гэты мір такі крохкі! Сёння ён ёсць, а заўтра ўжо зноў ідзе бойня. Таму звяртаюся да вас, дарагія чытачы, і прашу надалей маліцца за Сірыю, асабліва за яе дзяцей. У выніку вайны ў краіне з'явілася шмат сіротаў, раненых, хворых. Многія дзеці галадаюць. Таму кожны вечар, збіраючыся ісці спаць, прыгадай, дружа, пра тых, каму няма дзе спаць, чые дамы разбураныя, бацькі забітыя, хто церпіць боль і бядоту. Успомні пра іх і даручы іх у малітве Айцу Нябеснаму, папрасі ў Яго міласэрнасці да іх.



*Маленькі рыцар Беззаганнай*

# ЕЗУС НЕ ЕЗДЗІЎ НА МАШЫНАХ...

*Госць часопіса –*
*Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі,*
*арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч*



*– Эксцэленцыя, тэма гэтага нумара нашага часопіса – фізкультура і спорт, і таму я, карыстаючыся нагодай, хачу пагаварыць з Вамі менавіта пра гэта.*

– Словам, у здаровым целе – здаровы дух. Я правільна зразумеў гэтую задуму?

*– Менавіта. Тое, што Вы любіце спорт, мы ведаем. Мінчане часам бачаць Вас на бегавой дарожцы, на ровары, лыжах... А Вы ў дзяцінстве кім марылі стаць, не спартсменам часам?*

– Блізка да гэтага — жаўнерам! Я жыў у Адэльску, на Гродзеншчыне: памежная застава недалёка, дык і падабаліся мне хлопцы, што брава так маршыруюць туды-сюды. Але апроч спорту я любіў яшчэ фізіку ды матэматыку. Таму пайшоў вучыцца на інжынерна-механічны факультэт Ленінградскага політэхнічнага інстытута. Вядома, калі б тады ў Беларусі была духоўная семінарыя, то адразу пайшоў бы туды, але ж яе не было...



*– Але потым Вы ўсё ж трапілі ў семінарыю.*

– Яно ж так і бывае: калі Бог кліча, а ты таксама ірвешся душою, то рана ці позна, а выйдзеш на тую адзіную сцежку. Я па размеркаванні як паехаў працаваць у Літву, так і зразумеў, што ўсё не выпадкова. Часта хадзіў маліцца ў Вострую Браму і аднойчы выйшаў адтуль з цвёрдым намерам – ісці ў семінарыю.

*– А спорт Вы ўвесь час любілі?*

– З дзяцінства. Хросны мой неяк прывёз ды падараваў мне футбольны мячык і тым самым «заразіў» футболам. У нас яшчэ і святар быў, Пётр Барташэвіч, які таксама любіў з намі, міністрантамі, пасля Імшы

паганяць мячык. Вось і ганялі разам. Аднойчы ажно руку быў зламаў, але нічога – зажыло. У часе студэнцтва нават у зборнай факультэта быў.

*– Больш траўмаў не было?*

– Былі, чаму не? Спорт – гэта ж і рызыка, а дзе рызыка, там часам здараецца балючае. Нават калі ўжо служыў біскупам у Расіі, парваў сухажылле.

*– Балюча нябось?*

– А як жа!

*– І ўсё ж спорт Вы не разлюбілі.*

– Дзе там! Ведаеце, я і цяпер, калі не пазаймаюся раніцай 30-40 хвілін, у мяне потым увесь дзень нейкі не такі, як трэба.

*– Пілігрымам на ровары ў Будслаў ездзіце...*

– Не цалкам, прызнаюся, увесь шлях, бо шмат маю абавязкаў. Такі ёсць жарт, што біскуп складаецца з календара. Але ўлетку вельмі люблю на ровары паездзіць, узімку – на лыжах пахадзіць.

*– Словам, выказванне, што рух – гэта жыццё, да Вас як найлепш падыходзіць.*

– Згодны. А падумайце толькі, колькі хадзіў Езус! Ён жа не ездзіў на машынах, але мераў Палестыну ўдоўж і ўпоперак сваімі нагамі. Ягонае жыццё – гэта праца, рух, дынамізм. Дык і трэба вучыцца ў Яго, бо Езус – найлепшы Настаўнік.

*– Ваша Эксцэленцыя, чаго пажадаеце Вы нашым чытачам у новым навучальным і катэхетычным годзе?*

– Жадаю ўзрастаць не толькі фізічна, але і ў Божай ласцы – на радасць бацькам, грамадству, нашай роднай Беларусі. На гэта і благаслаўляю ўсіх чытачоў «Маленькага рыцара Беззаганнай»: у імя Айца і Сына, і Духа Святога...

*– Амэн!*

*Гутарыла*
*Ірына Жарнасек.*



# Гомельскія канікулы



Гэтыя «Канікулы з Богам» праходзілі ў Гомелі вельмі весела. У іх удзельнічалі і здаровыя, і хворыя дзеці, тыя, што жывуць у сваіх сем'ях, і тыя, што выхоўваюцца ў Дзіцячай вёсцы (уявіце сабе – такая вёска тут ёсць!). З дзецьмі працавалі сёстры-законніцы, а таксама маладыя валанцёры з гомельскай парафіі. Гэтую акцыю праводзіла дабрачынная каталіцкая місія «Карытас-Міласэрнасць», а падтрымалі добрую справу сваімі грашовымі ўнёскамі вернікі, а таксама многія арганізацыі, якія зрабілі для лагера значныя скідкі – і такое часам здараецца! Дзякуй ім шчырае за дабрыню і міласэрнасць!

Мы прапанавалі самім дзецям фатаграфаваць свой побыт у лагеры і напісаць пра свае ўражанні. Вось некаторыя з іх.

– *Маё жыццё змянілася на сто*







*адсоткаў! Мы гулялі, весяліліся. Сёння мы памаліліся і пайшлі ў конную школу. Было вельмі весела! Для нас правялі экскурсію, і мы самі кармілі коней. Пасля спявалі песні.*

***Улад***

– Дзяўчаты прынеслі бісер, мы рабілі бранзалеты. А сёстры нам дапамагалі. Я вельмі люблю сясцёр, дзядзю Стаса, кухараў. А больш за ўсё мне падабаецца спяваць песні!

***Павел***

– *Шмат радасці прынесла мне прагулка на кацеры. Здарава таксама катацца на конях! А ў парку столькі атракцыёнаў, і кожны мог выбраць той, які яму найбольш падабаецца!*

***Ягор***

– Нам выдалі гальштукі і бэйджыкі. Мне вельмі спадабалася, бо на іх былі напісаны нашы імёны. Потым нам расказалі, што з'яўляецца грахом. Мне вельмі падабаецца галоўнае правіла веры: трэба любіць адзін аднаго, не крыўдзіць, не абманваць. Бабуля мне часта кажа пра гэта. Мне ўсё спадабалася: і прагулкі, і паходы, і пачастункі. А яшчэ я вельмі люблю нашых выхавацельніц – Алену і Олю. Яны вясёлыя, ласкавыя, добрыя.



***Кірыл***

– *Калі толькі пачаліся «Канікулы з Богам», я думаў, што мне будзе сумна. Але я памыліўся і вельмі рады. У нас хапала часу і на гульні, і на малітвы, і на сур'ёзныя размовы пра Евангелле. Гэта так класна!*

***Павел***

Такія вось уражанні засталіся ад «Канікулаў з Богам» у іх удзельнікаў. Дай Божа, каб яны заставаліся прыемным успамінам як мага даўжэй і дапамагалі дзецям не толькі адпачываць, але і вучыцца, і працаваць.

*Паводле сайта katolik-gomel.by*



# НАШ СВЕТ ПРЫРОДЫ



*Шмат прыгодаў перажыла Сафійка Свякло з Мінска мінулым летам. Адна з іх — дзесяць дзён рэкалекцый у Оршы. Праўда, у гэтых рэкалекцыях удзельнічалі Сафійчыны мама з татам, а іх дачушка проста радавалася новым сустрэчам. Там было столькі цікавага! І ці не самае прыцягальнае месца было — невялічкая сажалка з яе жыхарамі. Штодня Сафійка размаўляла з гаваркімі жабкамі, стракозамі, жучкамі ды мушкамі. А потым бегла ды расказвала пачутае маме з татам, каб яны нічога не прапусцілі!*





## І мы








*Адзін з прыемных успамінаў для групы гомельскіх дзяцей — іх удзел мінулым летам у лагеры «Канікулы з Богам». Бо ў тыя дні яны сустрэліся і нямала даведаліся таксама і пра «братоў нашых меншых», гэтых цудоўных Божых стварэнняў. Ці трэба казаць, колькі радасці прыносяць такія сустрэчы?*

Прыпавесці

# Дзве рыдлёўкі

Каваль зрабіў дзве аднолькавыя рыдлёўкі. Адну ён паставіў у хляве, а другую кінуў на павозку і завёз у поле.

Калі праз нейкі час абедзве рыдлёўкі зноў «сустрэліся» ў хляве, яны здзіўлена «агледзелі» адна адну. Тая, што ўвесь час прабыла ў хляве, пакрылася іржой і з зайздрасцю глядзела на сваю прыгожую, бліскучую сяброўку.

— Скажы, чаму ты зрабілася такая прыгожая? Табе ж так не пашанцавала! Увесь гэты час я стаяла сабе ціхенька ў куце хлява і нічагусенькі не рабіла, а ты, бедачына, ад світання да ночы працавала ў полі...

— Вось гультайства цябе і сапсавала, а я папрыгажэла ад працы, — адказала працавітая сяброўка.

*З кнігі 100 хрысціянскіх прыпавесцяў «Аднойчы...», — Масква: Трыяда, 2012.*





# САМАЯ ВАЖНАЯ СУСТРЭЧА

## *Літургія слова*

**«Шчаслівыя, хто слухае слова Божае і захоўвае яго!»**
(Лк 11, 28)

На кожнай святой Імшы Бог звяртаецца да нас праз чытанні з Біблії. Вельмі важна ўсведамляць, што гэтае слова звернута канкрэтна да цябе. Таму ўважліва слухай гэтае слова.



У нядзелю
і ў вялікія святы
мы слухаем
два фрагменты са
Старога
і Новага Запавету.
Пасля кожнага
ўрыўка мы чуем:
«Гэта слова
Божае».





Усе разам адказваем:
«Дзякуем Пану Богу!».

**Псальм**

Псальміст спявае
псальм.
Але не адзін,
бо і мы ўсе
ўключаемся
ў гэты прыгожы
спеў, паўтараючы
рэфрэн,
які з'яўляецца на-
шым адказам
на Божыя словы.



# «Гэта Я, не бойцеся...»

**Евангелле паводле святога Яна**
*Раздзел 6, вершы 16–21*

Калі настаў вечар, вучні Ягоныя сышлі да мора і, сеўшы ў човен, паплылі на другі бераг мора ў Кафарнаўм. І ўжо сцямнела, а Езус не прыходзіў да іх. Ад моцнага ветру хвалявалася мора. Праплыўшы каля дваццаці пяці ці трыццаці стадыяў, убачылі Езуса, які ішоў па моры і набліжаўся да чоўна, і спалохаліся. Ён жа сказаў ім: **«Гэта Я, не бойцеся!».** Хацелі ўзяць Яго ў човен, але човен адразу прыстаў да берага, куды яны плылі.





# Дзе браць адвагу?

Тое, што Езус ходзіць па вадзе, – гэта адно з надзвычайных здарэнняў, якіх шмат у Евангеллі. Яно яшчэ раз пераконвае нас у тым, што для Бога ўсё магчыма. Для нас, людзей, ёсць шмат немагчымых рэчаў, а Бог можа ўсё.

І калі Ён такі моцны, то мы, вернікі, маем надзейнае апірышча. Мы не павінны нічога баяцца, бо Ён сам кажа нам пра гэта. Адно што, і на сушы, і на моры мы павінны трымацца за Яго, які можа ўсё. Езус дае чалавеку адвагу, сілу, моц. Важна толькі моцна давяраць Таму, Хто здольны хадзіць па моры.



# Гульні Загадкі



## ЗАГАДКІ З ЕВАНГЕЛЛЯ

- Як ты назавеш дзевяць пракажоных, з якімі сустрэўся Езус па дарозе ў Ерузалем? Чаму? (Лк 17, 11–19)
- А як назавеш дзясятага з гэтага ж тэксту? Чаму?
- Што ўдава з Наін папрасіла ў Езуса учыніць для яе? (Лк 7, 11–17)
- Якімі словамі праслаўлялі людзі Езуса за гэты ўчынак?
- Як ты думаеш, каму ў наш час належыць узнагарода, пра якую сказаў Езус Пятру? (Мк 10, 28–30)
- Што зрабілі два чалавекі з Ерыхона пасля сустрэчы з Езусам? Чаму? (Мц 20, 29 – 34)

## Выкраслянка

Выкрасліце кожную другую літару, пачынаючы зверху, і ў выніку ты прачытаеш, у гонар якой гістарычнай падзеі Касцёл адзначае ў кастрычніку адно прыгожае свята. Што ты ведаеш пра гэтую падзею?




Адказы на
**«Загадкі з Евангелля»,**
**змешчаныя ў № 2 за 2013 г.**

За патаемную, шчырую; Ён нічога не еў; свята ў гонар Запавету з Богам і атрымання 10 запаведзяў, а таксама свята першых пладоў, жніва; Спасланне Духа Святога; папрасіў піць; рымскі сотнік.

Узнагароды за правільныя і акуратна аформленыя адказы атрымаюць: **Аляксандр Шэршань** з в.Янкавічы, што на Пастаўшчыне, **Мікола Томкавіч** з Вілейкі і **Маргарыта Ясэпкіна** з Наваполацка.




**Адказ на крыжаванку з № 2:**
Адвэнт

Адказы на апытанне
**«Што мы ведаем пра Будслаў»**:

Вёска на Мядзельшчыне; малая базыліка; францішкане; з Рыма; падаравана Папам Рымскім; 400 гадоў; Папа Клімэнт VIII; пілігрымам.

*Чакаем вашых новых лістоў.*
*Рэдакцыя*

# Прыгоды ксяндза Лявона

## Разам бегалі

Вырашыў ксёндз Лявон займацца аздараўляльным бегам. А то нешта то там, то тут заколе, забаліць, зашчыміць — што за справы такія? А дзе займацца? Не на школьны ж стадыён яму бегчы. Паехаў быў у лесе паспрабаваць. Куды там! Аб карчы пачаў спатыкацца. Проста па вёсцы пабегчы — усю парафію збярэш...

Дык і вырашыў ён бегаць па сцежцы наўпрост ад плябаніі да касцёла. Хадзіў ён па ёй раней рэдка, але, як трэба, то й пратопча. Ну і пабег... Раз прабег да касцёла, аддыхаўся, прайшоўся па цвінтары ды назад развярнуўся... Потым перачакаў трохі каля плябаніі ды зноў — да касцёла. І гэтак колькі разоў: туды-сюды, туды-сюды. Ажно ўзмакрэў. Вырашыў, што на першы раз хопіць. Абліўся вадой са студні, апрануўся і, бадзёры, радасны, пачаў рыхтавацца да заняткаў па рэлігіі, якія неўзабаве трэба распачынаць, бо новы катэхетычны год на носе.

А ўвечары ксёндз Лявон дзеля таго, каб, значыцца, не губляць спартыўнага запалу, зноў пабег да касцёла. Імчаў ды ўпершыню радаваўся, што да высачэзнай травы паабапал сцежкі ні ў каго не дайшлі рукі скасіць. Раней гэтая безгаспадарлівасць яго нервавала, а цяпер во і на добрае нібы выйшла: бяжыш сабе сярод быльнягу — ніхто цябе не бачыць, ніхто з цябе не дзівіцца...

Але ён памыліўся, бо ў другі раз каля касцёла яго ўжо чакала цётка Альжбета... з вялізным пірагом. Яна радасна ўручыла яму загорнуты ў ручнік, яшчэ цёплы пірог:

— Во, ойчанька, пакуль Вы бегалі, я Вам печыва з яблыкамі смачнага зрабіла. Пачастуйце сваіх гасцей.

— Якіх гасцей? — спалохаўся ксёндз Лявон і па баках глядзь туды, глядзь сюды:

— Дзе ты гасцей бачыла?

— Сама то я іх не бачыла, але ж нейкія ёсць, калі зранку бегаеце, дыхавіцу сабе наганяеце, — засмяялася цётка Альжбета і паківала пальцам: — Не падманеце мяне. Як пачаў ксёндз зранку мітусіцца, так і я бягом да печы — пірог спячы. Хоць гэтым, думаю, дапамагу нашаму пробашчу.

Ксёндз Лявон з палёгкай засмяяўся:

— Дык мы, аказваецца, сёння ўдваіх бегалі: толькі я па сцежцы, а ты каля печы.

— А рухацца карысна — пра гэта і дактары кажуць!

— Ну, то як набегаліся ўдосталь, дык пайшлі цяпер разам гарбату піць!

*Прыгоду запісала І. Ж.*



# Увага: конкурс «Мой Будслаў» працягваецца



Сябры! Конкурс **«Мой Будслаў»** працягваецца. Запрашаем усіх, хто прыгожа малюе, складае вершы, можа прыгожа расказаць іншым пра тое, які ён, наш Будслаў, прыняць у ім удзел. Прымаюцца самыя розныя працы. Не лянуйцеся працаваць прыгожа! Лепшыя творы з'явяцца на старонках нашага часопіса, а пераможцаў, вядома, чакаюць узнагароды. Вынікі конкурсу будуць падведзеныя ў апошнім нумары часопіса за 2013 год.

**Свае працы дасылайце на адрас: а/с 101, 220002 г. Мінск-2. Альбо на e-mail: m.rycar@yandex.by**



*Карына БЛАЖЭВІЧ, 10 гадоў, в. Нарач.*



*Яна ЖУКОЎСКАЯ, 13 гадоў, в. Нарач.*




*Караліна ДАНГЕЛЬ, 10 гадоў, в. Нарач.*



*ВОЛЬГА ЯЦЫНА, 9 гадоў, в. Нарач.*



*Ірэна АХРАМОВІЧ, 13 гадоў, в. Нарач.*



*Марыя АХРАМОВІЧ, 10 гадоў, в. Нарач.*



*Юлія АХРАМОВІЧ, 15 гадоў, в. Нарач.*



*Яўген МАЛЯРЭВІЧ, 13 гадоў, в. Нарач.*



*Надзея СІСЬКЕВІЧ, 12 гадоў, в. Нарач.*



*Соф'я ВОЛКАВА, 11 гадоў, в. Нарач.*




*Аляксандра РАКАЧ, 7 гадоў, г. Пінск.*

